Год V. Сьнежань № 13 (60).

# Шлях Моладзі

...„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

# ЗЬМЕСТ № 13:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год V. | Вільня, Сьнежань 1933 г. | № 13(60). |
| --- | --- | --- |

# Небясьпечная тэма.

(*На Каляды.*)

*Рэлігія ёсьць істотным зьместам духовага жыцьця чалавека, для жыцьця ёсьць так патрэбнай, як паветра — і якраз дзеля таго шмат-хто яе ня бачыць, як ня бачыць паветра і ня цэніць ягонай вартасьці.*

*Праф. Т. Г. МАСАРЫК*

*Прэзыдэнт Чэхаславацкае Рэспублікі.*



Ува ўсіх бадай рэдакцыях так ужо прынята, што матэрыялы да друку падгатаўляюцца адпаведна да часу, здарэньняў і пары году. Гэта знача, што калі ёсьць рэвалюцыя — ня пішуць аб супакою, летам узноў ня пішуць аб маразох і белым сьнегу, а зімой — аб гарачым леце і г. д.

Вось-жа і я ў зьвязку з надыходзячымі каляднімі сьвяткамі -- здарэньнем няштодзенным, якое дае многа думак да развагі людзям жывучым ня толькі паводле хрысьціянскае навукі, але і яе ворагаў—меў намер напісаць штось на тэму гэтага сьвята. Калі аднак думаў аб гэтым, сталі мне прад вачыма тыя асобы — падпісчыкі „Шляху Моладзі" і іншых беларускіх газэт, каторыя адкрыта расказвалі, што на правінцыі ёсьць ужо многа людзей, якія пабачыўшы ў беларускіх часопісях, артыкул маючы штось супольнае з рэлігіяй, хрысьціянствам, ня чытаючы касуюць яго, або вырываюць зусім тыя карткі, на якіх ён надрукаваны.

Робяць яны гэта, бязумоўна, ня гэтулькі з варожасьці да хрысьціянства, колькі з ненавісьці да чужацкага духахавенства, якое сваім палітыканствам, полёнізатарскай, або русафікатарскай акцыяй моцна далося і даецца ўсім нам у знакі. Паступкі такія, ясна, мэты не дасягаюць, бо калі хтось піша аб хрысьціянстве, то гэта ня знача, што ён ужо падтрымлівае рознага роду русыфікатараў, полёнізатараў,

ці камісараў адзеўшыхся ў сутаны ці расы. Такімі паступкамі мы свайму адраджэнскаму руху не паможам. Сьлепа байкатаваць усё рэлігійнае жыцьцё на Беларусі ня можна, бо маса нашых людзей ёсьць веруючых і нясьведама праз сваю веру падпаўшых пад уплывы чужынцоў, якія змагаючыся з беларускім рухам, часта капаюць пад намі ямы рукамі нашых-жа нясьведамых братоў. Людзей гэтых трэба вызваліць з цемры і паказаць праўдзівы шлях. Мыляцца будзе той, хто думае вызваліць іх дэмагогіяй, кажучы, што быццам хрысьціянства нясе нам няволю: гэтага даказаць ня можна, бо хрысьціянства ў засадзе сваей імкнецца да таго, каб людзі былі вольнымі і мелі нормальныя варункі да жыцьця. Перашкаджаюць зьдзейсьненьню гэтага імкненьня тыя ч у ж а ц к і я лжэ-пастыры, каторыя кіраўніцтва рэлігійнымі справамі на нашых землях захапілі ў свае рукі і выкарыстываюць яго для сваіх, а нам беларусом чужых мэтаў. Вось-жа з імі мы павінны вясьці рашучае змаганьне.

Дасюль, калі хтось з беларусоў працаваў і працуе на хрысьціянскай ніве ў беларускім кірунку, то напэўна не дзеля таго толькі, каб—як „нашы“ „гура-бязбожнікі“ іранічна гавораць — папасьці ў „неба“, але і дзеля таго, каб тут на зямлі, у змаганьні за палепшаньне долі свайго народу, **ахапіць усе галіны яго жыцьця,** не пакідаючы месца для ўплываў чужацкіх.

Агулам, няма так чаго баяцца гутарак аб хрысьціянстве, — ад іх не ўцякалі нават найвялікшыя бязбожнікі і марксісты. А апошнім часам заўважваецца зьмена рэлігійнае палітыкі нават СССР, — найвялікшага ворага хрысьціянства. Паводле газэтных вестак, камісар загранічных спраў СССР Літвінаў, заключаючы дагавор з прэзыдэнтам Зл. Шт. Паўноч. Амэрыкі Рузвэльтам, згадзіўся забясьпечыць поўную свабоду практыкаваньня хрысьціянскае навукі амэрыканскім грамадзянам у СССР. Гэты-ж самы камісар Літвінаў, на канфэрэнцыі з італьянскім дыктатарам Муссолінім у Рыме, гаварыў быццам аб зьмене рэлігійнае савецкае палітыкі ў адношаньні да каталікоў — савецкіх грамадзян, на іх-жа карысьць. Апроч таго ходзяць чуткі, што падчас сёлетніх калядных сьвяткоў у Саветах мае быць стрымана бязбожніцкая агітацыя праз радыё, тэатр і кіно. Так што можа йшчэ дачакаемся ня толькі спыненьня бязбожніцкае агітацыі ў СССР, але і спаленьня іхняе літэратуры.

Усё гэта сьведчыць аб тым. што на кожную справу, асабліва моладзі, трэба глядзець з развагай, не гарачыцца, распазнаць у чым справа і тады толькі рашацца.

Трэба яшчэ ведаць, што „барацьба“ з рэлігіяй наагул і з хрысьціянствам асабліва, гэта тыповая **„дзіцячая хвароба“** кожнае адраджаючаеся нацыі і азнака спозьненасьці ейнага культурнага разьвіцьця. Чым раней гэта пройдзе, тым мен-

шыя пакіне насьледкі. Сапраўды культурны сьвет гэту „барацьбу“ ўжо перажыў; перажывём яе і мы.

У беларускім адраджэнскім руху мы павінны браць пад ўвагу і ўводзіць у жыцьцё ўсё тое, што сапраўды здолее заспакоіць матэрыяльныя і духовыя патрэбы нашага беларускага народу; будзе гэта згодна з сумленьнем чалавечым і з адвечнай Праўдай.

Я. Н.

---

# Слуцкае паўстаньне.

*(З прычыны 13-тых угодкаў).*

Трагэдыя беларускага народу пачынаецца з часоў, калі на рубяжы сярэднявечча творацца два асобныя і вечна сабе варожыя сьветы — Усход і Захад. Беларусь, на сваё няшчасьце, з часам сталася тэй краінай, дзе якраз канчаўся Усход і пачынаўся Захад. Працэс абасабленьня культуры і псыхікі Усходу ды Захаду трывае яшчэ і да сяньня і ён, гэты працэс, якраз і зьяўляецца падставай нашае трагэдыі. Народ наш падзелены на два лягеры: праваслаўных (усходнікаў) і каталікоў (заходнікаў). Аднак нутраная наша барацьба для нас ня была-б страшной, калі-б не барацьба сілаў вонкавых—Усходу і Захаду, — якія беларускую самабытнасьць збураюць дашчэнту. Усход паліў нашы сёлы і таптаў нівы ў імя абароны „рускай“ веры, Захад паступаў падобна ў імя „польскай веры.“ Кожная праява і імкненьне беларускага народу да самастойнасьці выклікала крывавую інтэрвэнцыю Усходу, які ў гэтых імкненьнях бачыў палітыку заходафільства. Захад рабіў тое самае, бачучы ў беларускім жаданьні волі—праяву палітыкі усходафільства. Словам, Усход і Захад лічыў Беларусь аб'ектам свае экспансыі. Дзеля здабыцьця гэнае краіны, палітыкі Ўсходу і Захаду стараюцца перадусім не дапусьціць да самаазначэньня народу беларускага, бо гэта быў-бы канец іх экспансыўнага хіжацтва. У імя гэтае палітыкі кожная праява самабытнае волі беларускае была чэрнена як Ўсходам, так і Захадам.

Акт 25 сакавіка для ўспомненае палітыкі быў актам забойчым. Усяму сьвету было сказана, што зямля беларуская ня ёсьць „бяспанскай,“ а таму ўсялякія экспансыі павінны спыніцца. Народ Беларускі з гэтага часу, як гаспадар сваёй зямлі, сам вырашыць сваю будучыню.

Акт 25 сакавіка пацьвердзіла Слуцкае Паўстаньне. Дзесяць тысяч случчакоў, мо' і сапраўды шаленцаў, сваёй крывёй і трупамі управамоцнілі акт 25 сакавіка і разам з тым пакрыжавалі палітыку экспансыі Усходу і Захаду.

У апошнюю хвіліну Захад нейкім чынам здолеў прычапіць Слуцкаму паўстаньню значок заходафільства. Кожна-

му аднак ужо сяньня ведама, што пралівалася там кроў у імя ажыцьцяўленьня беларускага акту 25 сакавіка. Пацьвердзілі гэта ўрэшце: Усход, які брутальна скрывавіў найсьвяцейшы парыў беларускае волі, і Захад, які абдараваў учасьнікаў паўстаньня концэнтрацыйнымі лягерамі.

Аднак гэнае пагвалчаньне волі беларускае было ўсапраўднасьці пазорнай капітуляцыяй экспансыўнае палітыкі Усходу і Захаду ў кірунку беларускіх зямель. На „бяспанскай“ зямлі напаткалі рашучы адпор гаспадара-беларуса, які сказаў, што сваю ўласнасьць патрапіць абараніць нават сваей крывёй. Вось дзеля чаго гэты акт небеларусы і стараюцца абясславіць, прычэпліваючы да яго штораз больш розных значкоў ды латак. Беларускае грамадзянства аб гэтым павінна памятаць, а разам з тым супроцьставіцца, бо йнакш мы самі дапаможам збурыць свае падставы самастойнасьці.

С. С.

# Hej moładź, pracnisia!

*„Ad vieku my spali i nas razbudzili“.*
(*Z bieł. rev. hymnu*).

Maładyja Biełarusy, tuzanyja i zryvanyja losam, jak liścio vasieńnim vietram, pračniecіesia! Pačujcie huki mahutnaj. pieśni ŭ svaim sercy i ŭ dušy! prysłuchajciesia dobra ŭsim stohnam našaj maci Biełarusi, a tady paznajecie našu trahedyju, zrazumiejecie patrebu vyzvaleńnia.

Praz doŭhija biazsonnyja nočy ja čuŭ niejki dziŭny hołas, jaki kliča ŭ rady zmaharoŭ za lepšuju dolu Rodnaha Kraju. Pamału duša maja budziłasia z drymotaŭ i ja čuŭ u sabie vialikuju źmienu, jak-by niejkaja ladovaja akova zvaliłasia z mianie. Abudziŭ mianie daloki, a adnačasna i blizka, bo ŭ sercy i dušy schavany hołas Biełarusi. I choć ja nie sačyŭ bližej za žyćciom svajej Baćkaŭščyny, za adradženskim rucham, to adnak pałažeńnie Jaje i patreby chutka paznaŭ. Ciapier hołas Jaje mahutna zahłušaje i chcivaść i apatyju i bajaźlivaść chaładu i hoładu i ŭsialakuju niehadź, jakaja pryhniataje čałavieka.

Dyk pračniecіesia ŭsie, što dahetul spačyvajecie ŭ drymocie narodnaj i stańcie ŭ rady pracaŭnikoŭ dla palepšańnia doli Baćkaŭščyny Biełarusi. U pracy henaj, jakoj jość biezhranična mnoha, pamiatajmo, što vialikija rečy paŭstajuć susim z małych, mała vidočnych, a tak-ža, što ŭsio, što robim, musim rabić planova, systematyčna, ad fundamentu. Fundamentam -ža ŭ našym adradženskim ruchu budzie ekanamičnaja halina našaha žyćcia, jakuju my patrapim najlahčej adbudavać pry pomačy kooperacyi, na katoruju treba źviarnuć pieradusim uvahu, asabliva ŭ m-cy śniežni s. h. padčas „Miesiaca biełar. Kooperacyi“.

**Iłarjon Jurčyk**
abs. Dziarž. Koop.-Hasp. Škoły ŭ Nałęczowie

# Kali žyli Biełarusy ŭ Vilni.

Hurtok Prehistorykaŭ Vilenskaha Universytetu ad peŭnaha času viadzie raskopki na Bekišovaj hary ŭ Vilni. Padčas hetaje pracy znachodziać tam mnoha vielmi cikavych staradaŭnich pradmietaŭ. Apošnim-ža časam adkapali całuju staradaŭniuju sialibu, jakaja, pavodle ćvierdžańnia znamianitaha polskaha vučonaha praf. Antonieviča, śviedčyć ab tym, što biełarusy žyli ŭ Vilni ŭžo ŭ XIII stahodździ i znali tady ŭžo navat hančarski promysieł, ab čym śviedčać znojdzienyja hlinianyja pasudy.

---

**B. S.**

# Za kitajskim muram.

**(Praciah, hl. „Śl. Mol." Nr. 12).**

Adnej z pryčynaŭ złučeńnia kitajskich plamionaŭ była nieabchodnaść abarony pierad manholskimi, kačujučymi plamionami z poŭnačy, jakich prymanivali ŭradžajnyja, bahatyja husta zasielenyja ziemli kitajcaŭ. Heta kanieśnaść abarony, stvaryła napeŭna adnu z najbolšych architekturnych budoŭlaŭ na śviecie — ahramadny **Kitajski mur**, budova jakoha pačałasia na paŭnočnaj hranicy tahačasnaha Kitaju ŭ VII vieku pierad našaj eraj. Nadzvyčajnaja hetaja budoŭla pieratryvała bolš dvuch tysiačaŭ hadoŭ i siańnia zachavałasia jšče ŭ susim dobrym stanie.

Pad zasłonaj hetaha muru, pradstaŭlajučaha byccam biespraryŭnuju pahraničnuju krepaść, pačaŭsia raźvivacca „Novy Kitaj", — značycca taki, jakim paznali jaho pieršyja eŭropejcy i jaki biaz źmienaŭ pieratryvaŭ dźvie tysiačy hadoŭ. Pačali paŭstavać vialikija kitajskija miesty. Pieršy kitajski car Ši-Huan-Ti zasnavaŭ svaju stalicu, miesta Hien-Jan nad rakoj Hoangho, u adziny sposab na śviecie: prymusova pasialiŭ u im 130 tysiač siemjaŭ, a ŭsie pieramožanyja im udzielnyja kniazi byli zmušany tam žyć, praŭda, u pabudavanych užo vielmi pryhožych pałacach. Zamak samoha cara byŭ vielmi pryhožaj i ahramadnaj budoŭlaj. Składaŭsia z 500 pakojaŭ, azdoblenych mozaikaj i vyłažanych darahimi kamieńniami. Pobač z pałacam znachodziŭsia ŭ asobnym budynku vysoka pastaŭleny teatr, vypasažany va ŭsie pryłady, jakija ledź paru dziesiatkoŭ hadoŭ tamu nazad znachodzilisia ŭ realistyčnych eŭropejskich teatrach.

Za panavańnia caroŭ z dynastyi Han, jakija nastupili pa śmierci Ši-Huan-Ti, kitajskaja dziaržava stałasia sapraŭdy naj-

mahutniejšaj imperyjaj na śviecie. Było heta ŭ tym samym času, kali rymskaja imperyja dasiahnuła svajho najbolšaha raźvićcia. Adnak kitajskaja imperyja była šmat bolšaj ad rymskaj, niatolki prastoram, ale sarhanizavanaj palityčnaj systemaj i vyšejšaj cyvilizacyjaj.

Siańnia dziŭnaj dla nas jość adna reč, — ale zrazumiełaj z pryčyny tahačasnaha niedachopu daroh i srodkaŭ komunikacyjnych, — čamu hetyja dźvie mahutnyja dziaržavy, historyja jakich była faktyčna historyjaj śvietu, nie spatkalisia z saboju nikoli, z aružžam u rukach? Adnak mima hetaha dziejali jany pasredna adna na druhuju, — bo ŭpływy, jak rymlanaŭ, tak i kitajcaŭ, pašyralisia na ŭsiu Siaredniuju Aziju i Indyju. Aprača hetaha, pamiž abšarami hetych imperyjaŭ isnavali handlovyja znosiny: na suchaputnym šlachu praz Persyju ciahnulisia karavany viarbludoŭ, na vodnym šlachu — karablami, idučymi ŭzdoŭž bierahoŭ Čyrvonaha mora i Indyi.

Rymskija i kitajskija vajskovyja pachody dasiahnuli adzin raz da supolnaha punktu — da ŭschodnich bierahoŭ Kaśpijskaha mora. Adnak da spatyčki nie dajšło z tej prostaj pryčyny, što było heta nie ŭ adnym časie: rymskija vojski pad kiraŭnictvam Pompeja byli na hetych bierahoch u 66 hodzie pierad Chrystom, a kitajski vajenny pachod, pad kiraŭnictvam Pan-Čaŭ, byŭ nad Kaśpijskim moram 36 hadoŭ raniej — u 102 h. pierad našaj eraj. Kitajcy vysłali tady pasłoŭ, jakija mielisia pryniaści bližejšyja viestki ab mahutnaści Rymu, ab jakim tady ŭžo čuli ŭ Kitai. Adnak da sustrečy hetych dvuch cyvilizacyjaŭ tady nie dajšło, — minuła jšče kala dvuch tysiačaŭ hadoŭ, pakul zachodnie-eŭropejski śviet, naślednik rymskaj kultury, spatkaŭsia sa śvietam azijacka-kitajskim.

Tut možam sabie vyabrazić, čym byŭ tady „Žoŭty Smok“ (tak zavuć časam kitajskuju imperyju): była heta, pobač rymskaj imperyi, adzinaja oaza kultury na ŭsim abšary Staroha Śvietu.

Na poŭnač ad hetaj kitajska-rymskaj pałasy ciahnulisia dzikija prastory lasoŭ, pakryvajučych terytoryi siańniašniaj Rasiei, Biełarusi, Ukrainy, Niamieččyny, dalej — abšary stepaŭ, pustyniaŭ i kamianistych horaŭ. Jasnavałosyja aryjcy, jakija tvorać siańnia bolšuju častku žycharoŭ Eŭropy, zasialali zachodniuju čaścinu hetaha dzikoha abšaru. Na ŭschodzie byli narody tureckija, tatarskija, manholskija i hunskija.

Huny i manhoły, žyvučyja na poŭnač ad Kitaju, nia byli ŭžo tady strašnymi dla mahutnaj kitajskaj žoŭtaj imperyi. Nasielnictva Kitaju, što-raz ličniejšaje, vyliłasia za kitajski mur: kitajcy pačynajuć kolonizavać abšary na poŭnač ad vialikaha muru, razhaniajučy aružnaj rukoj kačujučyja tam hunska-manholskija plamiony i zmušajučy ich da adstupańnia što-raz dalej u hłybiniu nieŭradžajnych i pustynnych te-

rytoryjaŭ až u staronku viečnaha śniehu i lodu. A tyja z kačaŭnikoŭ, što nie ŭciakli, astalisia pamiž ziemlarobskimi kitajskimi kolonistami, jak najomnyja rabotniki i z časam stalisia kitajcami.

Rešta manhołaŭ vyciśnienych kitajcami, nia majučy što rabić na pustynnaj ledavikovaj poŭnačy, ruchnuła na zachad — i adhetul biaruć pačatak hunska-manholskija napady, jakija pierajšli najpierš praz staronki Siaredniaj Azii, a paśla zalili Eŭropu až da bramaŭ Rymu. Jany heta ŭ V vieku pa Chryście spryčynilisia da ŭpadku rymskaj imperyi i źnistažeńnia stvoranaj jeju kultury, — padčas, kali kitajskaja imperyja astałasia i mieła pieratryvać jašče cełyja dziesiatki stahodździaŭ. Takim čynam hunska-manholskija plamiony akazalisia mimavolnymi pasłami „žoŭtaha smoka", niasučymi z saboj źnistažeńnie eŭropejskaj cyvilizacyi.

Adnak u hetym-ža časie, kali pačalisia pieršyja pachody Hunaŭ, u kitajskaj dziaržavie źjaviłasia niabyvałaja ŭ historyi naturalnaja pošaść, — strašennaja zaraza, dahetul niaznanaja navucy chvaroba, jakaja ŭ II stahodździ našaj ery blizka praz dziesiać hadoŭ panavała ŭ Kitai. Vyniki hetaj pošaści byli tak strašennyja, što na piać viakoŭ strymali ŭsiakaje raźviććio kitajskaj imperyi i raźviććio kitajskaj cyvilizacyi.

Tolki ŭ VII vieku zakrasavała ŭznoŭ dziaržava „žoŭtaha smoka" — i praz cełych tysiačů hadoŭ až da pałovy XVII vieku, utrymaŭ Kitaj charaktar čysta kitajski, pakul nie napali na jaho Mandžurcy, jakija ŭ kancy taksama stalisia kitajcami. Hety napad daŭ kitajcam novuju, panujučuju dynastyju, jakaja pradoŭžyła žyćcio „žoŭtaha smoku" na 250 h.

I mandžurski peryjad adnak nia vytryvaŭ pierad naporam eŭropejskaj cyvilizacyi, jakaja akazałasia zabojčaj dla skaścianieŭšaj u adviečnych formach žyćcia kitajskaj kultury.

A ciapier, kali abiassileny časova pavievami eŭropejskaha zachadu „žoŭty smok" pačaŭ adžyvać, — źjaŭlajecca vorah hetaj samaj rasy, hetaha samaha koleru skury. Utvoranaja pad upłyvam kitajskaj cyvilizacyi japonskaja dziaržava bje sarakaviakovaha kitajskaha vołata. Ci Kitaj vytrymaje hetyja ŭdary? Ci mo' kitajski smok sapraŭdy zasudžany ŭžo na śmierć? — pakaža heta niedalokaja budučynia Z karotkaha narysu doŭhaha žyćcia hetaha «smoka» adnak bačym, što žyvučaść jaho była niepieramožanaj. Ci-ž budzie zabojčym dla jaho japonski mieč, uzmocnieny „biełaj atrutaj" eŭropejskaj techniki?..

K a n i e c.

# Літэратурны аддзел.

* * *

Маладыя дні, —
Малады — настрой,
Дзе ярчэй агні,
Мы туды таўпой.

Узыйдзем на шлях
Вясёлкавых дум,
Спудзім песьняй жах. —
Створым сьпеўны шум,

І праз муць цямры
Ў сьвет праб'ём вакно.
Мы прышлі сюды
З бою браць жыцьцё.

Маладыя мы,
У грудзёх — агонь.
Усе імкнем туды, —
Пад твой сьцяг — Пагонь!

**Міхась Машара.**

## РОДНАМУ КРАЮ.

Край мой радзімы, туманам спавіты,
Чаму так бязьмерна плакучы твой лёс?
Усімі зьняважаны, доляй забыты,
Цяжку пакуту нясеш, як і нёс.
  Панурыя хмары вісяць над табою,
  Варожыя сілы цябе абляглі,
  Пасталі кругом цябе цеснай таўпою,
  Жыўцом праглынулі-б, каб толькі маглі.
Ды дарма! Народ твой ад сну ўжо збудзіўся,
З пагардай на злыдняў ён хцівых глядзіць,
Пакутнікаў дух ўжо ўваскрос, адрадзіўся
Да волі імкнецца, запалам гарыць.
  Віхры хай злуюцца над краем йшчэ болей,
  І цёмныя хмары над ім хай вісяць,
  Магутнага ймкненьня да сьветлае волі.
  Ніхто ўжо ня зможа ў народзе стрымаць!
Бурнай ракой разьлілось Адраджэньне
Па ўсёй Беларускай пакутнай зямле,
Блізка ўжо, блізка сьвяты час збаўленьня,
Ўжо зорку сьвітаньня я бачу ў імгле.

**С. Гаротны.**

## ЗЬНЯМОГА.

Як ціха начная дарога!...
Навокал сьцюдзёная бель.
Ўсяго агарнула зьнямога, —
Так маніць спачынкам пасьцель.

Далёка я быў, — валандаўся,
Блудзіў у шуканьні дарог;
Дзень сонечны — ясным сьмяяўся,
Дзень поўны надзей і трывог.

Ды згаснула сонца... сьцямнела...
Спакінаўшы чырвень зара,
Далей валакуся нясьмелы,
Між сьнегу ў спакою начы.

Так ціха... і ў сэрцы стамлёным
Сьцюдзёна... Патухлі агні.
О ночка! ў пасьцельку пухову,
Як сына, мяне прыгарні!

Хай сьціхнуць на міг хоць трывогі
Дзіцяча-наіўнай душы.
Так ціха начная дарога, —
Пануе зьнямога ў цішы.

**Міхась Машара.**

## „ЧОРНА?—ЧОРНА, БЕЛА?—БЕЛА."

Ехаў пан дарогай ля млына старога,
Цераз мост, ля ставу, да двара другога.
На дарогу мельнік выйшаў прывітацца,
Думаў — мо' дарогі будзе пан пытацца.
Перад брыкай пана да зямлі схіліўся
Так, што пан з пакоры гэткай зьдзівіўся
І пад вус свой сівы ціха засьмяяўся.
Фурману-ж прамовіў, каб ён затрымаўся.
Дык пытае грозна мельніка старога:
—„Слухай, чалавеча, ці тут рыбы многа?"
—„Многа, мой паночку, многа, залаценькі,
Ясьненькі, вяльможны, добры, харашэнькі."
—„Хіба ты жартуеш? — тут вада нячыста.
Для ліноў? — ня месца, бо стаў балацісты."
—„Так, ліны, паночку, шчыры, даражэнькі,
Ўсё ліны, — паночку, мой ты харашэнькі..."
—„Брэшаш, суччы сыну! Хіба толькі жабы?"
—„Так, паночку, жабы! жабы, жабы, жабы..."
Затрасьліся ногі ў мельніка старога
Так, што ледзь да хаты завялі жывога.

**Я. Вількоўшчык.**

## LEŬ I VOŬK.

U daŭniejšyja hady
Mieli źviery šmat biady,
Bo u tuju voŭk paru
Nad źviarami vojtam byŭ.
Nos zadzioršy u haru,
Jon źviaroŭ usich dušyŭ
Biez razboru:
Nia tolki z boru,
A na't
Až z chlavoŭ braŭ parasiat.
Žyć tak źviery nie mahli —
I ŭ sud vaŭka padali.
Leŭ, jak car usich źviarej,
Daŭ prykaz na sud chutčej
Ŭsim pakryŭdžanym prybyć,
Kab moh dobra rassudzić,
A mo' vojta im druhoha
Vyznačyć na hod.
I vot
Sabrałasia źviarej mnoha.
Tak-ža voŭk pryšoŭ tudy.
„Chto na vojta kryŭdu maje?“ —
Leŭ pakryŭdžanych pytaje.
Kab nia mieć z suda biady,
Dyj vaŭka nie razdražnić —
Schod źviarej ŭ adno kryčyć:
„Panie leŭ, naš vojt ničoha,
Kryŭdy robić nam nia mnoha“.
„Nu dyk dobra — marš damoŭ!
Vojtam budzie voŭk iznoŭ“.
Tak sud končyŭ sudździa leŭ.
Znoŭ papiorła bydła ŭ chleŭ.
Źviery tak-ža razyšlisia.
Idučy u les nazad,
Voŭk śmiajaŭsia, z sudu rad:
„Dobra budzie, dumaŭ, mnie
Žyć u hetaj staranie,
Bo tut durni nie źvialisia“.

J. B.

## Dla našych małodšych.

### KALADKA.

*Pastuški spali pry lasku ŭ łažočku.*
*Hladź!—rasśviatleła ŭ samu ciomnu nočku*
*Jany čujuć z muzykaj*
*Śpieŭ ɦramady vialikaj*
*Aniołaŭ, Aniołaŭ, Aaniołaŭ.*



Linaryt Uł. Paŭlukoŭskaha. („Try Karyli".)

Na Biełarusi ŭ časie Kalad jość zvyčaj siarod moładzi chadzić z «Tryma Karalami», vyhlad pravadnikoŭ jakich bačym na padanym rysunku. Padčas hetych abchodaŭ moładź piaje pieśni. Voś ža pažadana, kab „Try Karali" śpiavali pieradusim pieśni biełaruskija.

*Adzin spuściŭsia—samy najjaśniejšy:*
*Słucɦajcie, kaža katory śmialeišy:*
*Navinu ja vam skažu,*
*Navat miesca pakažu*
*Ŭ Betlei, ŭ Betlei, ŭ Betlei.*

*Boɦ tam radziŭsia ŭ ɦetu ciomnu nočku,*
*Nie u pałacy, ale u cɦlavočku*
*Ŭ žałabočku, na sienka*
*Pałažyła Panienka*
*Božańku, Dzietańku, Maleńku.*

# Čaraŭnica.

Z dalokaj poŭnačy, z kraju viečnaha śniehu i lodu, paraj biełych kasmatych miedźviadzioŭ spavitaja ŭ biełyja puchovyja tkaniny pryjechała da nas Čaraŭnica. Začaravała vody našaj miłaj Ziamielki i zrabilisia jany kamieńniami prazrystymi; začaravała lasy našy i zasnuli jany snom hłybokim; patrasła šyrokimi rukavami svajej puchovaj vopratki i pakrylisia pali našy śniežnaj biellu. I loh naš Kraj pad nahami Čaraŭnicy biełу... cichi... zadumany. Rada jana z svajej mocy, uśmichnułasia śmiecham jasnym, choć chałodnym i ad hetaha ŭśmiechu zaiskryłasia ŭsio kruhom cełym moram brylantaŭ šmatkalornych. I staić siarod hetaha mora bieli i blesku Čaraŭnica mahutnaja, hroznaja, choć cudoŭna, pryhožaja biazlitasnaja, choć viasiołaja; hość naš štohodni z dalokaj poŭnačy — Čaraŭnica — Zima.

*Z. Vieras.*

---

# Вацюковы суботнікі.

(Працяг, гл. № 12 (59) „Ш. М.“).

У хуткім часе веселя трашчэлі сухія дровы і яснае полымя высака шугала, абліваючы чырванаватым сьветам пакойчык і жменьку моладзі, зьбіўшуюся каля печы.

— Мілае, то мілае гэтакае вогнішча,—перарваў цішыню Паўлюк, —але каб яно давала шмат сьвету, то не скажу.

— Гэтак сама, як ты, думалі відаць і даўнейшыя людзі, — сказаў Вацюк, ды рабілі ўсялякія вынахады, каб здабыць лепшае асьвятленьне. Яшчэ ў школе здарылася мне пераглядаць цікавую кніжку, у якой апісываліся спосабы асьвятленьня ў даўнейшыя часы ў розных народаў.

— Раскажы, калі помніш, Вацюк, — папрасіў Кастусь.

— З прыемнасьцю, адказаў той, а помню добра, бо мяне гэта вельмі зацікавіла, так што нават я сабе пару бачынак перапісаў. — Так вось, падобна грэкі доўгі час ня зналі іншага асьвятленьня, апрача паходняў з смольнага дрэва; кельты рабілі з авечай клустасьці нешта падобнае да сьвечак; старажытныя датчане карысталіся як лямпай птушкай пінгвінам, якая мае жывот абросшы з сярэдзіны пластам клустасьці; у гэты жывот уторквалі кнот і мелі — лямпу.

— Ха, ха, ха! засьмяяўся Яська,—дасьціпныя!—

— Ціха, Яська, кажы далей Вацюк,—перабіла зацікаўленая Анелька.

— Рымляне ўжывалі замест сьвечак кнаты намочаныя ў воск, клустасьць або смалу; іх лямпы складаліся з пасудзіны напоўненай клустасьцю, у якой плаваў кнот. — Нешта падобнае ўжываюць і сягоньня жыхары далёкай поўначы эскімосы, якія свае „лямпы" напаўняюць клустасьцю вялярыбаў або нэрпаў.

— Падчас Вялікай Вайны,—дадаў найстарэйшы з грамадкі Паўлюк, — немцы мелі з сабой падобныя лямпачкі—бляшаначкі, напоўненыя нейкай застыўшай клустасьцю.

—А перад сьвятымі абразамі, уставіла Настуля, і цяпер заўсёды гарəць лямпачкі з алівай.

— Так, адказаў Вацюк, але ўжо, менш больш, ад 1859 году пачалі людзі дзеля асьвятленьня памешканьняў ужываць газу.

— Газа знаходзіцца пад зямлёю? праўда, Вацюк?—запыталася Анелька.

— Праўда. У некаторых мяйсцох зямной кулі пад зямлёй знаходзіцца шмат газы ці лепш сказаць—нафты, якая выдабываецца з пад зямлі і б'е фантанамі, часам нават вельмі высака. Але тая нафта мае шмат розных прымешак і мусіць быць раней адпаведна ачышчаная, каб магла служыць да ўжытку. Пры ачышчаньні з помаччу вельмі моцнага награваньня спачатку аддзяляецца бэнзына, а тады сапраўдная газа. З астаткаў дабываюць яшчэ шмат, шмат розных карысных прадуктаў.

А дзе найбольш газы ёсьць—у якім краі?—Запыталася Марыля.

— Адны з найбольшых капальняў газы знаходзяцца на Каўказе. — Выдабываецца таксама ў Амэрыцы, у Пэрсыі, Вугрыі і ў Усх. Галіччыне каля Барыслава.

У гэту мінуту адчыніліся дзьверы і ў пакойчык уліўся прыемны белаваты сьвет прынесенай лямпы.

— А гэта, мамачка, адкуль?—зьдзівіўся Вацюк.

— Пашанцавала вам,—засьмяялася маці. — Цётка Кацярына пазычала некалі ў нас газу і якраз сягоньня адняслa яе.

—А ўсё-ж газа—найлепшая рэч, пры яе сьвятле і ўспамінаць ня хочацца пра лучыну і пігвінавыя жываты,—жартаваў Яська.

— Найлепшым асьвятленьнем газы назваць няможна,—запярэчыў Вацюк, -- цяпер усе спосабы пабіла электрычнасьць...

— Кіньце ўжо,—перабіла Марыля,—трэба крыху пагуляць, павесяліцца.

— Добра,—згадзіўся Вацюк,—пакінем гутарку аб электрычнасьці на другую суботу.

**Л. Войцікава.**

# Хроніка

## З беларускага жыцьця.

**Лекцыя аб коопэрацыі ў Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры.** 13.XII. с. г. у залі Б.І.Г. і К. у Вільні (Завальная 1) Віленскі Аддзел Інстытуту, з прычыны „Месяца Беларускае Коопэрацыі", ладзіў лекцыю на тэму: „Гаспадарчыя і моральныя здабычы коопэрацыі." Лекцыю чытаў інжынер-аграном Ад. Клімовіч.

**Ліквідацыя гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** 21.XI. с. г. адміністрацыйныя ўлады зліквідавалі гурток Б.І.Г. і К. ў в. Babакомшчыне. Наваградзкага пав.

**Ёсьць яшчэ недрукаваныя творы Фр. Багушэвіча.** Паводле вестак „Беларускай Крыніцы" (№ 45), ёсьць яшчэ недрукаваныя творы беларускага паэта Фр. Багушэвіча, аўтора слаўных „Беларускае Дудкі" і „Беларускага Смыка." Рукапісы гэтыя мае дачка нябожчыка грамадзянка Мніховіч у Ашмяне, якая аднак выдаць іх камусь з беларусоў да друку ня хоча.

**З дзейнасьці Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце.** 25-га лістапада с. г. абс. этн. М. Пяцюкевіч прачытаў у VII-ай залі галоўнага будынку Віленскага Унівэрсытэту III цюю частку (заканчэньне) свайго рэфэрату «Пахаронныя абрады і паміналаньне памёршых". — 3.XII. с. г. у тэй-жа залі прачытаў лекцыю студ. Хв. Ільяшэвіч на тэму „Новае ў справе лёсу друкарні «Мамонічаў»— 10.XII с. г. адбыўся Агульны Гадавы Сход Т-ва Прыяц. Беларусаведы, на якім, па прыняцьці да ведама справаздачы з дзейнасьці Ураду Т-ва за мінулы акадэмічны год, выбраны новы Ўрад Т-ва, у склад якога увайшлі: Хв. Ільляшэвіч— старшыня, М. Мілючанка, Т. Мацьвеева і С. Сарока—сябры, І. Будзьчанка і Л. Стаўбунічанка — заступнікі. —13.XII с. г. адбылася зборка сяброў Т-ва Прыяц. Беларусаведы ў справе зьбіраньня беларускіх этнографічных матэрыялаў на правінцыі падчас сёлетніх Калядніх вакацыяў.

**З жыцьця Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні.** 1.XII с. г. Б.С.С. ладзіў у залі Бел. Інстытуту Г. і К. лекцыю студ. Барысаглебскага на тэму: «Барацьба дзьвюх тэорыяў сьвятла" (з фізыкі). Пасьля лекцыі была дыскусія.

**Памёр б. сэкрэтар Бел. Студ. Саюзу П. Пяршукевіч.** 4.XII. с. г. у Наваградку памёр па нядоўгай хваробе б. сэкрэтар Бел. Студ. Саюзу ў Вільні П. Пяршукевіч. Нябожчык адзначаўся сваей энэргіяй у грамадзка-культурнай беларускай працы. Ён многа чытаў беларускіх лекцыяў і ладзіў беларускія прадстаўленьні. Сьмерць П. Пяршукевіча сумным рэхам адбілася сярод беларускага студэнства і старэйшага грамадзянства.

**Суд над вучнямі — беларусамі.** 29.XI. с. г. у Віл. Акр. Судзе разглядалася справа б. вучняў б. Дзярж. Вуч. Сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча ў Вільні: Л. Атрахімавічанкі, А. Крупіча, Фр. Шутовіча і П. Аляшкевіча абвінавачаных у прыналежнасьці да КПЗБ. Суд усіх іх апраўдаў. Нявінна праседжаных у вастрозе да суду 8 месяцаў ніхто ня верне.

**Канцэрт славянскай песьні** 10.XII. с. г. ў Беларускай Філіі Дзярж. Гімн. ім. Ю. Славацкага ў Вільні (Вострабрамская 9) быў наладжаны на карысьць незаможных вучняў гэтае гімназіі. Падчас канцэрту выступаў беларускі хор пад кіраўніцтвам грам. Р. Шырмы і аркестр балалаечнікаў пад кіраўніцтвам грам. Траяноўскага.

**Пяцілетні юбілей Вяліка-Грынкаўскага Гуртка Т.Б.Ш.** 24 кастрычніка с. г. Вяліка Грынкаўскі гурток Т.Б.Ш. ў Ваўкавыскім павеце сьвяткаваў пяцілетні юбілей свайго існаваньня і працы. На сьвяткаваньні, пасьля справаздачы, чытаў лекцыю грам. Р. Шырма на тэму „Літэратура і яе значэньне ў жыцьці грамадзтва і адзінкі.“ Пасьля выступаў хор пад кіраўніцтвам грам. А. Сахарчука, які стройна выканаў некалькі беларускіх песьняў. На заканчэньне была адыграна п‘еса „Лекары і лекі.“ Урад Вяліка-Грынкаўскага Гуртка Т.Б.Ш. атрымаў з прычыны свайго юбілею прывітаньні, і мы яму жадаем, каб яго праца йшла беларускімі народнымі шляхамі да палепшаньня долі нашага народу.

**З выдавецкае нівы.** У бягучым месяцы вышлі з друку 1) кніжыца для дзяцей В. Біянкі п. н. „*Мурзік*“, цана гэтае кніжыцы 50 грашоў. 2) *Увагі дзеля запісываньня беларускае народнае творчасьці і абрадаў*“ апрацаваныя М. Пяцюкевічам і выданыя Т-вам Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ. 3) „*Беларускі Народна-Гаспадарскі Календар—кніжка*“ на 1934 г. Календар гэты быў сканфіскаваны і ўзноў вернены, толькі бяз 71 і 72 бачыны; каштуе ўсяго 60 гр. Галоўны склад календара: Вільня, Зарэчная 14—7. — Купіць усе беларускія кніжкі можна ў Беларускай кнігарні „Пагоня“—Вільня — Завальная 1—1.

25-га лістапада 1933 г. у Вільні пачала выходзіць новая беларуская часопісь пад назовам „*Новы Шлях*,“ якая зьяўляецца органам Беларускае Нацыянальна-Соцыялістычнае думкі. Рэдактарам часопісі ёсьць грам. Ул. Казлоўскі. Адрэс рэдакцыі: Вільня, Кальварыйская вул. 16—2.

Агульны Сход сяброў Т-ва „Беларускае Каталіцкае Выдавецтва“ адбыўся дня 11-га сьнежня сёлетняга году, на якім, пасьля справаздачы ўступаючага ўраду Т-ва і ўлажэньня пляну працы на будучыню, Сход выбраў новы ўрад Т-ва, у склад якога ўвайшлі: Кс. Ад. Станкевіч — старшыня, Кс. Др. Ст. Глякоўскі — скарбнік і студ. мэд. Я. Малецкі — сэкрэтар. — Названае Т-ва ў хуткім часе мае прыступіць да выданьня малітвеньніка для беларусоў каталікоў пад назовам: „Hołas Dušy“.

**З БЕЛАРУСІ ПАД САВЕТАМІ. Беларускі нацыянальны рух расьце.** Апошнім часам ува ўсіх бадай газэтах паявіліліся ўзноў весткі аб узросьце беларускага нацыянальнага руху ў Беларусі пад Саветамі. Рух гэты ахоплівае што-раз шырэй рады беларускае інтэлігенцыі, а так-жа моладзь сялянска-работніцкую масу. У зьвязку з гэтым Цэнтральны Камітэт Беларускае Камуністычнае Партыі склікаў анагдай надзвычайны зьезд, на якім шырака абгаварыўшы гэтую справу вынесьлі рэзалюцыю **супроць беларускага нацыяльнага руху,** называючы яго найбольш небясьпечным для Саветаў. На вышайназваным зьезьдзе найвастрэй выступалі супроць беларускае думкі польскія камуністы ў Менску, хіба аднак і гэта ня зможа выбіць з народу тое, што яму дала прырода.

## З УКРАІНСКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

**Новы працэс у Савецкай Украіне.** У Кіеве савецкія ўлады прыгатаўляюць новы працэс выкрытай сёлета новай „контррэвалюцыйнай“ арганізацыі, якая імкнулася быццам зрабіць пераварот у Саветах. Арганізацыя гэта, як падаюць бальшавіцкія газэты, мела сувязь з заграніцай.

## ЖЫВЫ ЛАНЦУГ АХВЯР НА ВЫДАВЕЦТВА „ШЛ. МОЛАДЗІ“

**Грам. Др. Браніслаў Туронак ахвяраваў на выдавецтва „Шляху Моладзі“ 20 зл. і заклікае прадоўжыць жывы ланцуг Грам. Др. Ст. Грынкевіча і а. Я. Туронка.**

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*

*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

Рэдактар Язэп Найдзюк — Выдавец Янка Багдановіч

# Usiačyna

**Krychu cyfraŭ z žyćcia SSRR.** U Savietach sioleta kančajecca raspačataja ŭ 1928 h. 1-ja piacihodka sacyjalistyčnaha budaŭnictva. U chutkim časie maje adbycca XVII-ty usiesajuzny źjezd kamunistaŭ, kab padsumavać zdabyčy piacihodki. Zdabyčy hetyja adnak nievialikija, bo aprača niekalkich zavodaŭ (Dnieprostroj), metalurgičnych i aŭtamabilnych fabrykaŭ, a taksama 250-ci viarstovaha kanału ad Biełaha da Bałtyckaha mora, jaki vykapali palityčnyja viaźni, niama čym chvalicca. Ekanamična, a heta najvažniej, kraj staić słaba: hoład i choład źbiraje tysiačnyja achviary. Dzivicca hetamu niečaha, bo, jak śviedčać statystyčnyja cyfry, inakš być nia moža. Pavodle statystyki ŭ 1913 h., kali Rasieja mieła 120 miljonaŭ duš, sabrana ziernavoha chleba 85,8 miljonaŭ ton*), u 1928 hodzie, pierad pačatkam piacihodki, sabrana 71,5 mil. ton, a ŭ 1932, kali piacihodka była na vyšyni svajho postupu, a SSRR. ličyła 160 miljonaŭ duš, sabrana tolki 68,7 ton ziern. chleba. Z hetaha vynikaje, što kožny hramadzianin SSRR. maje chleba na 1/3 mienš, čym pierad vajnoj, a kali źvierniem jašče uvahu na toje, što ad sialan chleb adbirajecca dla vojska, jakoje ŭtrymlivajecca nadta dobra, a takža dla uradaŭcaŭ, jakija jaduć chleb nia mienš čym pierad vajnoj, to jasnym stanie, što ziemlarobu astajecca hetulki chleba, što moža pamierci hałodnaj śmierciaj, tym bolš, što, hadoŭla bydła pała za čas balšavizmu bolš, jak na 50 proc. J. M.

**Katastrofa najvialikšaha samalotu.** Zbudavany ŭ saviecckich fabrykach najvialikšy samalot, ab jakim my pisali ŭ Nr. 9 „Šl. Moł.,“ padčas probnaha lotu, z pryčyny niedakładnaj dziejnaści mechanizmu, zvaliŭsia i raźbiŭsia. Zhinuła pry hetym 14 asob, jakija znachodzilisia ŭ samalocie. Siarod zabitych byli i vyšejšyja aficery saviećkaje armii.

**Novyja kuli.** Niamiecki vynachodca dr. Gerlich skonstruavaŭ novuju karabinnuju kulu, jakaja budzie lacieć 40 kilametraŭ na sekundu, pry tym dziejnaść jaje budzie strašniejšaja ad viedamaj u suśvietnaj vajnie kuli „dumdum.“ Anhlijcy starajucca skonstruavać adpaviedny pancyr, kab abaraniacca ad hetaje novaje kuli.

**Strašnaja katastrofa.** U Paznani na stancyi 15.XII s. h. najechaŭ asabovy ciahnik na druhi taki samy ciahnik. U vyniku hetaha bolš 70 asob raniena i 8 zabitych. Najbolš achviar siarod vučnioŭskaje moładzi, jakaja jechała na ekcyi. Jość heta apošnim časam najbolšaja ciahnikovaja katastrofa ŭsiaho śvietu.

**Vialikija marazy.** Apošnim časam zapanavali ŭ Eŭropie vialikija marazy; na ziemlach biełaruskich u niekatorych miascowaściach siahali jany ŭžo 35°C.

---

*) Tona 61 pud.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

**Małočnyja śniedańni dla vučniaŭ u Niamieččynie.** U Niamieččynie jość prajekt vydavańnia vučniam u škołach małočnych śniedańniaŭ. Kali prajekt hety ŭvojdzie ŭ žyćcio, dyk miljon dziaciej budzie spažyvać pa čvierć litra małaka, a hetym samym peŭniež padymiecca i jahonaja pradukcyja.

**Aściarožna na lodzie!** Na Miadzielskim voziery stojačy na lodzie ławili baćka z synam rybu. Ni zsiul-nistul pad synam pačaŭ załomvacca lod i syn pačaŭ tanuć. Bačačy heta, baćka kinuŭsia synu na pomač, adnak daremna, bo ŭžo było pozna i razam abodva znajšli śmierć pad lodam.

## Наша пошта.

М. Машары. За прысланае падзяка, будзем карыстаць. Просьбы часткова ўжо споўнілі, а рэшту споўнім у найбліжэйшым часе. „На сонечным берагу" пануе ўжо працоўная раніца. Работа ня можна пахваліцца, што йдзе хутка, але далёка хутчэй, як дагэтуль. Рэшта будзе ў пісьме. Прывет!

А. Жуку. „Перапісь" атрымалі, слабаватая, лепш здаецца вышла-б у Вас яна прозай. Просім прысылаць свае навейшыя творы.

А Ш—куі Д. К—каму. Адказ высланы пісьмамі.

2-ой бел Рыскай Меставай Аснаўной Школе ў Латвіі Нумары „Шл. М.", якіх Вы не атрымалі, выслалі паўторна. Падпіскі ад „Бел. Школ у Латвіі" дагэтуль яшчэ не атрымалі.

J. Vilkoŭščyku. Za pažadańni i prysłanyja bajki ščyraja padziaka. Drukavać nowyja bajki budziem u nastupnych numaroch, a ŭ hetym numary idzie ŭžo raniej prysłanaja.

I. Jurčyku. Za prysłanaje padziaka, karystajem. Prośbu spoŭnili Prosim pisać čaściej.

Dziadźku Baradatamu. Vykarystajem u nastupnym numary, prośbu spaŭniajem.

K. P—skamu. Pamahčy nia možam, dalejšaja prośba spoŭniena, „Šl. Moładzi" budziem wysyłać, prosim jaho raspaŭsiudžwać siarod swaich kalehaŭ.

Pisaŭja. Atrymali, karystajem i prosim pisać čaściej

J. T—cieju. Prośbu spoŭnili, dumajem, što Vy ich užo atrymali.

## KUTOK ŚMIECHU.

Vybary sołtysa j padsołtysa ŭ Ikaźni, Brasłaŭskaha pav.

Staršynia: Abviaščaju pasiedžańnie Hramadzkaj Rady adčynienym. Na sekretara prašu p. X. na siabroŭ p.p. Y i Z. Pračytaju vybarčy rehulamin. (Čytaje. Da sekretara). Prašu zapisać padany spisak kandydataŭ na sołtysa j padsołtysa. (Sekretar piša). Sołtysam vybrany pan Justyn Rydzika, padsołtysam – p. Semčuk. Pasiedžańnie začyniaju.

Radnyja: Panie staršynia! My taksama majem kandydataŭ, prosim prahałasavać!

Staršynia: Užo pozna: vybary skončany. (Vychodzić).

Pisaŭja.

* * *

Jaśka, skažy ty, čamu ryby nie havorać?
— Bo kali-b jany hawaryli, to nabirali-b vady ŭ rot.